*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА





2 мая 1991 г. ЧАЦВЕР

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

*Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР*

№ 86 (21614)

Цана 10 кап.

## МАЙ ТРЫВОГІ НАШАЙ




Не веснавое сонца, якое выглянула пасля праліўных дажджоў, не традыцыйная разнарадка—шчырая трывога за лёс краіны прывяла на гэты раз на Красную плошчу дзесяткі тысяч жыхароў сталіцы. Першамай зноў набыў першапачатковы сэнс—свята працы, барацьбы за эканамічныя правы і сацыяльныя гарантыі.

Па закліку Маскоўскай федэрацыі прафсаюзаў і Асацыяцыі свабодных прафсаюзаў МАККІП з самай раніцы збіраліся ў розных месцах горада калоны дэманстрантаў, каб сказаць рашучае «не» беспрацоўю, спекуляцыі, росту цэн, выказаць салідарнасць з няпростымі цяперашнімі клопатамі мільёнаў масквічоў.

Выгляд галоўнай плошчы сталіцы—зусім не пампезнаўрачысты. Прыкметна менш стала пышнасці, змяніліся прывычныя транспаранты. Паскрамнеў фасад ГУМа: пано з пажаданнямі міру і шчасця, поспехаў у працы. Другое пано, на будынку Гістарычнага музея, абвяшчае, што «ў адзінстве — наша сіла». Няма ранейшай маляўнічай мазаікі на Крамлёўскай сцяне.

Эканомія? На жаль, не. На крыху падноўленае ўбранне плошчы і бліжэйшых да яе кварталаў, транспаранты ўздоўж галоўных магістраляў сталіцы патрачана амаль удвая больш, чым у мінулым годзе. «Што тут дзіўнага?— сказалі нам у «Масграфармленні». — Рэзка падскочылі цэны на матэрыялы, падаражала тэхніка». І тут, як відаць, праяўляюцца новыя эканамічныя рэаліі.

Па-іншаму выглядаюць сёння святочныя трыбуны. На галоўнай трыбуне Маўзалея — Прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў, Старшыня Вярхоўнага Савета СССР А. І. Лук'янаў, старшыня УКП У. П. Шчарбакоў. Запрошаны сюды кіраўнік расійскага парламента Б. М. Ельцын аказаўся ў гэтыя дні далёка ад Масквы— у Кузбасе, дзе вірують страсці, а старшыня Массавета Г. Х. Папоў устрымаўся ад удзелу ў мітынгу, як ён заявіў, «па палітычных меркаваннях».

На Красную плошчу прыйшлі віцэ-прэзідэнт СССР Г. І. Янаеў, намеснік Генеральнага сакратара ЦК КПСС У. А. Івашка, першы сакратар ЦК Кампартыі РСФСР І. К. Палазкоў, першы сакратар МГК КПСС Ю. А. Пракоф'еў, іншыя дзяржаўныя і палітычныя дзеячы.

Тут жа тыя, хто мае намер звярнуцца да прысутных з прамовай. Па абодва бакі Маўзалея — госці: ветэраны працы, народныя дэпутаты, кіраўнікі дыпламатычных місій у Маскве.

10.00. Старшыня МФП М. Шмакаў адкрывае першамайскі мітынг. Толькі кансалідацыя ўсіх канструктыўных і сапраўды дэмакратычных сіл, народная згода і адзінства дзеянняў, падкрэсліў ён, могуць вывесці краіну з крызісу. Толькі салідарнасць працоўных можа процістаяць спробам ушчаміць іх правы. Мы выйшлі на гэты мітынг, каб сказаць аб сваіх патрабаваннях і праблемах, каб абараніць сябе і свае сем'і ад нястрымнага росту цэн і бяздумных кіраўніцкіх рашэнняў. Мы — за радыкальную эканамічную рэформу пры захаванні сацыяльных гарантый. Ва ўмовах рынку самы высокі кошт павінна мець праца.

Адзін за другім падыходзяць да мікрафона старшыня УКП У. Шчарбакоў, токар завода «Барацьбіт» П. Данілін, старшыня прафкома Маскоўскага акадэмічнага тэатра сатыры, народная артыстка РСФСР В. Аросева, старшыня АСП Б. Фёдараў, старшыня НФПР І. Клачкоў і іншыя. Іх выступленні прама перагукаюцца з лозунгамі, якія ўзвышаюцца над калонамі. Гучаць трывога і неспакой за будучыню Саюза, правы чалавека працы. «Шлях да прагрэсу — рабочая салідарнасць і грамадзянская згода, а не канфрантацыя і кроў!», «Мы моцныя, калі разам!», «Так — прадуманай і эфектыўнай праграме выхаду з эканамічнага крызісу! Не — кабальнай падатковай палітыцы!»...

Завяршаюцца выступленні, і ўдзельнікі мітынгу прымаюць рэзалюцыю. У ёй заяўляецца аб падтрымцы сумеснай заявы «дзесяці», гатоўнасці ў складанай эканамічнай і палітычнай абстаноўцы цвёрда стаяць на пазіцыях абароны інтарэсаў працоўных, дабівацца ад заканадаўчай і выканаўчай улады энергічных дзеянняў, накіраваных на выхад з эканамічнага крызісу.

Не гучала на гэты раз над Краснай плошчай тысячагалосае «Ура!» Спакойны і дзелавы настрой прысутных — адказ тым, хто спрабаваў выкарыстаць свята ў сваіх палітычных мэтах, навязаць прафсаюзам неканструктыўныя патрабаванні.

**Рэпартаж з Краснай плошчы вялі карэспандэнты ТАСС.**

# ВЯСНА НАДЗЕЙ І ЧАКАННЯЎ

## *Першамайская маніфестацыя ў рэспубліцы*



**Фотарэпартаж з плошчы імя Леніна ў Мінску аб святкаванні Першамая вялі спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» Мікалай АМЕЛЬЧАНКА і Яўген ПЯСЕЦКІ.**

Як усё ж многа добрых пачуццяў абуджае Першамай! Гэта зразумела: прадзеды і ўнукі выраслі ўжо пад абаяннем звонкага свята вясны, абнаўлення, светлых надзей. Цяпер трэба прывыкаць і да новых фарбаў, таму што міжволі да ўрачыстага настрою прымешваецца трывожнае пачуццё—свежыя ў памяці забастоўкі і мітынгі, якія ўзрушылі Мінск, Салігорск, Оршу, іншыя рэгіёны рэспублікі. Ды і вельмі супярэчлівыя прапановы гучалі ў канцы красавіка: адны настойвалі на арганізацыі ў гэты дзень палітычных маніфестацый, другія заклікалі зусім адмовіцца ад любых масавых акцый. У такім процістаянні крайнасцей своечасова быў пачуты голас прафсаюзаў: вярнуцца да першапачатковых традыцый гэтага дня — выказаць, перш за ўсё, сацыяльна-эканамічныя патрабаванні працоўных, заклікаць іх да міжнароднай салідарнасці. Бо ва ўсім свеце 1 Мая прызнаны днём прафсаюзных дзеянняў, святам рабочых.

Федэрацыя прафсаюзаў рэспублікі, яе савет звярнуліся да ўсіх палітычных партый і рухаў: не выкарыстоўваць Першамай як падставу для палітычнай канфрантацыі, паглыблення расколу ў грамадстве.

Сёння само жыццё пераконвае — у імя грамадзянскага міру і згоды патрэбна аб'яднанне сіл. Вельмі адказны крок у гэтым напрамку зроблены напярэдадні Першамая, калі Прэзідэнт СССР і кіраўнікі дзевяці рэспублік, у тым ліку і нашай Беларусі, падпісалі заяву аб неадкладных мерах па стабілізацыі абстаноўкі ў краіне і пераадоленню крызісу. Падтрымаць іх намаганні, стабілізаваць эканоміку можна толькі сумленнай працай, не трацячы рабочы час на стачкі і мітынгі, арэнай якіх усё часцей становяцца фабрыкі і заводы.

Першамайская маніфестацыя ў Мінску ўсяляе надзею, што такое аб'яднанне магчымае. Сярод таварышаў па цэху, прадпрыемству ў саставе дзевяці вялікіх калон па колькасці раёнаў беларускай сталіцы, ішлі да плошчы Леніна людзі розных перакананняў: і тыя, хто ў красавіцкія дні стаяў ля станка, і тыя, хто мітынгаваў у цэнтры горада. Мабыць, любы з іх гатоў падпісацца пад такімі лозунгамі, якія добра відаць адусюль на плошчы: «Няхай жывуць мір, давер і супрацоўніцтва!», «Аб'яднаем свае намаганні супраць развалу эканомікі!», «Зарплату — не ніжэй за пражытачны мінімум!», «Народныя дэпутаты! Менш слоў, больш справы!». Працоўны Мінск выказвае сваю думку аб няпростай сітуацыі ў краіне і рэспубліцы, аб шляхах выхаду з грамадскага крызісу.

На плошчы маніфестантаў сустракаюць мелодыі. Гэта грыміць медзь аркестра Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.

Цяперашняя маніфестацыя нават знешне моцна адрозніваецца ад прывычных нам дэманстрацый. Ніякай пампезнасці і афіцыяльнасці, дарагой атрыбутыкі, мноства сцягоў і партрэтаў. Зрэшты, скромнасць знешніх праяўленняў святочнасці ніяк не адбілася на настроі тых, хто вырашыў у гэты дзень падтрымаць векавую рабочую традыцыю. На тварах — усмешкі, жанчыны нясуць букецікі чырвоных гваздзікоў. Асабліва задаволены малышы: махаюць флажкамі, запускаюць у неба рознакаляровыя шары, старанна крочаць побач з дарослымі. Што ні гаварыце, але нават дзеля дзетвары варта захаваць традыцыю масавых шэсцяў. Бо не толькі палітыкай былі і застаюцца яны для людзей, а яшчэ і своеасаблівымі «імянінамі сэрца», звонкім святочным акордам у нашым небагатым на радасці жыцці...

Пакуль калоны ідуць да плошчы Леніна, мы паспяваем узяць некалькі кароткіх інтэрв'ю.

— Я па гэтых вуліцах крочу не першы раз, — расказвае начальнік тэхбюро завода імя Вавілава Уладзімір Жалезнякоў. — Здаралася несці лозунгі, у якія сам не вельмі верыў. Бывала, і рублём, і адгулам рабочых на дэманстрацыю заманьвалі. Цяпер усё інакш: хто хацеў, той і прыйшоў. Я палітыкай не займаюся, беспартыйны. Але так разумею: каб жыццё перайначыць на лепшы лад, нам, як нагой на камень пры пад'ёме, трэба аперціся на мінулае. А калі за намі чарната будзе, то і наперадзе святла не ўбачыш.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**





## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### РАЗ-ВЫДАННЕ, ДВА-ВЫДАННЕ

**САЛІГОРСК. (М. Лойка). Днямі кіёскі горада папоўніліся новымі выданнямі—сталі выходзіць адразу дзве новыя газеты —вытворчай гандлёва-рэкламнай фірмы «Оска» і «Салідарнасць»—орган рабочага руху Салігорска і незалежнага прафсаюза гарнякоў Беларусі.**

**Ці апраўдаюць выданні надзеі выдаўцоў, пакажа час.**

### МІЖ ПЕРСІДСКАГА ЎЗОРУ...

Нібыта ў іншую эпоху трапляеш, пераступаючы парог Дзяржынскага краязнаўчага музея. Зрэшты, выстаўка, якая працуе тут якраз і прадстаўляе далёкае мінулае, расказвае аб прадметах сялянскай працы, промыслах і рамёствах беларускага народа канца XIX — пачатку XX стагоддзяў.

Немудрагелісты, да гэтага часу трывалы і на дзіва зручны посуд, плецены з лазы, чароту і саломы размешчаны па суседству з вырабамі рамеснікаў-даўбежнікаў. Багаццем фарбаў радуе сялянскае льняное адзенне, прыгожае святочнае і «на кожны дзень». Радужныя паясы і галаўныя ўборы сведчаць аб тым, што ўмелі ў старадаўнасці не толькі працаваць, але і прыгожа, з густам апрануцца і адпачыць у дзень святочны. Аб вельмі цікавых абрадах і звычаях раскажуць прадстаўленыя на выстаўцы дзіўнай прыгажосці пакрывалы і ручнікі. І як тут не ўспомніць словы паэта «І тчэ, забыўшыся рука...»

А магчымасць паглядзець жыхарам раёна ўсю гэту прыгажосць, зробленую рукамі народных умельцаў, прадаставіў Мінскі абласны краязнаўчы музей.

**А. ЛЮШКЕВІЧ, кар. БЕЛТА.**

### ГАЮЧЫ ЛАЗЕР

**ГРОДНА. (А. Дук). Новы метад лячэння — лазератэрапія стаў прымяняцца ў паліклініцы вытворчага аб'яднання «Азот».**

Гэта самая сучасная апаратура з дзіўнымі магчымасцямі: лазерны прамень разбурае мёртвыя клеткі і ўзнаўляе новыя, паляпшае абмен рэчываў у арганізме, загойвае раны. Вельмі эфектыўны ён таксама пры лячэнні страўнікавых хвароб, у прыватнасці гастрыту, уралагічных і гінекалагічных захворванняў.

### КРАМОЛЬНЫ МЯККІ ЗНАК

**Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны рыхтуецца да свайго II з'езда, які адбудзецца 14—15 чэрвеня ў Мінску. Сярод актывістаў таварыства расце занепакоенасць тым, што Закон аб мовах у БССР у многіх выпадках не выконваецца, а ў праекце новага Саюзнага дагавора статус рускай мовы вызначаны фактычна як мовы дзяржаўнай у СССР, і, такім чынам, беларускай мове пагражае новая небяспека.**

Цікава, што ў парадак дня будучага з'езда ўключана пытанне аб шляхах рэфармавання правапісу беларускай мовы.

— Мы не ставім мэтай вярнуць граматыку ў той стан, у якім яна была да 1933 года, — паведаміў нашаму карэспандэнту старшыня аргкамітэта з'езда ТБМ народны дэпутат БССР Я. Цумараў. — Гэта было б нонсенсам. Мы выступаем за разумную рэформу. У правапіс павінен вярнуцца «рэпрэсіраваны» мяккі знак перад мяккімі зычнымі, ранейшыя нормы напісання «е-я», у шэрагу выпадкаў — раздзяляльны мяккі знак.

Як стала вядома, Савет Міністраў БССР даручыў АН БССР распрацаваць праграму ўдасканалення правапісу беларускай мовы і правесці спецыяльную навукова-практычную канферэнцыю па гэтай тэме. Так што зусім магчыма, што ў хуткім часе падпісчыкі ўбачаць крамольны мяккі знак у назве нашай газеты — «Зьвязда».

### НА ЗАВОДЗЕ ЗАДАВОЛЕНЫ, У ШКОЛЕ-ТАКСАМА

**ПІНСК. (Ул. Равіцкі). Дзевяноста вучняў 6—9 класаў пінскай сярэдняй школы № 14 нядрэнна зарабляюць прама ў сваіх школьных майстэрнях.**

Там яны па заказу завода «Кавальліцмаш», іх шэфскага прадпрыемства, вырабляюць дэталі для мэблі і карабкі для іх упакоўкі. Толькі за апошнія 3 месяцы школьнікі зарабілі 7 тысяч рублёў. Гэта 60 працэнтаў ад заробленай імі сумы, астатнія грошы — 4 тысячы 600 рублёў — папоўнілі школьны бюджэт.

Задаволены і на заводзе. Перадача вытворчасці дробных дэталей у рукі школьнікаў дазволіла вызваліць цэлую брыгаду рабочых, якіх перавялі на больш складаныя ўчасткі. Акрамя таго, шэфы спадзяюцца, што праз некалькі гадоў многія вучні пяройдуць са школьнага цэха ў цэхі заводскія.

СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ●

### КАБ ЦЭНЫ «Ў КОСМАС» НЕ ЛЯЦЕЛІ

**ЛЯХАВІЧЫ. (В. Малькоў). Каля 100 тысяч бляшанак тушонкі вырабіў сёлета кансервавы цэх калгаса «Новае жыццё». Але працуе прадпрыемства са значнымі перабоямі. Для далейшай яго работы патрэбны штодня да паўтары тоны мяса ў забойнай вазе. Паступае ж звычайна не больш двухсот кілаграмаў. У асноўным — з ферм калгаса.**

Тутэйшыя калгаснікі лічаць за лепшае везці вырашчаную жывёлу ў райцэнтр або хоць за трыдзевяць зямель, толькі не прадаваць гаспадарцы. І вязуць. Прычым, на калгасным транспарце. Разгадка простая — кансервавы цэх закупляе жывёлу па 3.20 за кілаграм жывой вагі. Знізілі тут закупачную цану з мэтай самай дабрачыннай: каб канчатковая прадукцыя не палохала пакупнікоў «касмічнымі» цэнамі. А атрымалася: калгас сам сябе адлупцаваў. Каб закупляць жывёлу для забою па высокай цане, а прадаваць тушонку і вэнджаныя вырабы — па таннай, гаспадарцы патрэбны датацыі. Але куды толькі Вікенцій Ждановіч, старшыня калгаса, не звяртаўся, усюды атрымаў ад варот паварот. Дзіўна, мясцовая нарыхтоўчая кантора датацый на закупку жывёлы атрымлівае з рэспубліканскага бюджэту, а калгас — нібы наўмысна, ставіцца ў няроўныя ўмовы. Хто ж у канчатковым выніку пройграе? Усё тыя ж спажыўцы.

Каб не перабоі з сыравінай, кансервавы цэх даў бы ў 5—7 разоў прадукцыі больш, чым зараз.

Да гэтага застаецца дадаць, што ў кастрычніку 1990 года было пісьмо Мінфіна БССР, Белаграпрамбанка і Белкаапсаюза «Аб кампенсацыі рознічных і закупачных цэн». 8 студзеня 1991 г. адпаведная тэлеграма Мінфіна і Белкаапсаюза БССР прадоўжыла дзеянне гэтага пісьма на нявызначаны тэрмін. На першы квартал гэтага года райнарыхткантора атрымала на датацыі 534.339 рублёў і 83 капейкі.

## *Указ Прэзідэнта Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік*

**Аб прысваенні ганаровага звання «Заслужаны работнік прамысловасці СССР» тав. ВЫСОЦКАМУ М. С.**

За вялікі асабісты ўклад у распрацоўку і ўкараненне ў вытворчасць прынцыпова новай высокаэфектыўнай аўтамабільнай тэхнікі прысвоіць галоўнаму канструктару Беларускага аб'яднання па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка Міністэрства аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання СССР **Высоцкаму** Міхаілу Сцяпанавічу ганаровае званне «Заслужаны работнік прамысловасці СССР».

**Прэзідэнт Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік М. ГАРБАЧОЎ.**

Масква, Крэмль.
30 красавіка 1991 г.

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

